Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 22 (76) Нядзеля, 31-га Траўня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
„ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.



## Пара скінуць маску.

З боку нашых палітычных праціўнікаў часта давалася чуць, быццам мы зьяўляемся як-бы прынцыпіяльнымі ворагамі беларускага парлямэнтарнага прадстаўніцтва ў Сойме й Сэнаце Польскае Рэспублікі.

Але наўрад ці знойдзецца ў Польшчы хоць адзін беларус, які не прызнаваў-бы ўсяе вагі самога факту удзелу беларускіх прадстаўнікоў ў законадаўчых органах гаспадарства. Справа ўся ў тым, хто прадстаўляе ў парлямэнце інтарэсы беларускага насяленьня, ці праўдзівей кажучы, якія інтарэсы ён там прадстаўляе дый як прадстаўляе?

Няраз мы зазначалі на сваіх шпальтах, што побач з вядомымі ў беларускім руху адзінкамі галасамі народных масаў у Сойм і Сэнат Польшчы прайшлі і асобы іншага гатунку.

Жыцьцё пацьвярджае нашыя перакананьні ў гэтым і вось адна з найсьвяжэйшых ілюстрацыяў:

У газэце расейскіх эмігрантаў „За Свободу", якая выходзіць у Варшаве (№ 137 за 26. V. 1925 г.) пад рубрыкай „*Вѣсти из Вильно*" знаходзім заметку аб гадавым сходзе сяброў праваслаўнага дабрачыннага таварыства падмогі бедным і сіротам. З дакладам на гэтым сходзе выступіў сэнатар п. В. Багдановіч, які, як вядома ўсім, належыць да... Беларускага Пасольскага Клюбу.

Дабрачыннасьць — рэч вялікая, але-ж дзіўнаю яна выглядае калі зьяўляецца па сваёй сутнасьці *расейскаю*, а вядзецца сэнатарам-беларусам, выбраным у сэнат беларускімі галасамі па сьпіску № 16.

Аб нацыянальна-расейскім характары дзейнасьці п. Багдановіча будзем казаць словамі вышэйназванае эмігранцкае газэты, якая піша аб яго дакладзе літаральна гэтак: „Таварыства мае прытулак для дзяцей (60 дзяцей у веку ад 4 да 14 гадоў) і пры ім школу ды дзьве майстроўні. Прытулак знаходзіцца ў надта цяжкім матар'яльным палажэньні, бо ўрад, па словах дакладчыка, адпушчаў літаральна грашы на «*русскій*» прытулак. Падтрымалі гэты прытулак архіеп. Хвядос сваімі адозвамі па епархіі аб неабходнасьці ахвяроўваць на карысьць гэтага „*русскаго учрежденія*"...

Гэткім чынам пад маскай праваслаўя вядзецца п. Багдановічам чыста-расейская філёнтропія і, як сказана ў корэспондэнцыі, п. беларускі сэнатар выбраны ў управу гэтага расейскага філёнтропічнага таварыства.

Божа барані нас ад таго, каб мы мелі што-нібудзь проці права расейцаў займацца дабрачыннасьцю. Справа ня ў гэтым. Нас цікавіць іншае: кім зьяўляецца п. сэнатар Багдановіч — беларусам ці расейцам? Ці ён прадстаўляе сабою тую разнавіднасьць, вытвараную гаротнай гісторыяй беларускага народу, калі „бѣлорусс по происхожденію" робіцца „русским по убежденію" або йначай кажучы „тоже бѣлоруссом"?

Ні аб якой *беларускай дзейнасьці* п. Багдановіча, як да выбару яго сэнатарам, так і пасьля гэтага выбару чуць ня прыходзілася і ад прызнаньня ім свае прыналежнасьці да беларускага народу самому народу гэтаму ні холадна і ні горача.

Ясна, што нічога беларускага п. сэнатар рабіць ня хоча і ня робіць, да гэтага яго ніхто й ня змусіць; ён займаецца сабе расейскаю філёнтропіяй і годзі.

Але нашто-ж тады пісацца ў беларусы, ўваходзіць у склад пасольскага беларускага клюбу? Хіба-ж на тое, каб і ў клюбе гэтым прадстаўляць „*русскіе интересы*"?

Лёгіка, якой шмат вучыўся сэнатар п. Багдановіч і простая палітычная чэснасьць (у іншай мы не сумляваемся) дасюль не падказала яму, што правільней было-б скінуць дарэмную маску беларускасьці ды засесьць на аднэй лініі з расейцам-паслом Сярэбранікавым, які на беларусаў глядзіць вельмі проста, як на „племя единаго і неделимаго русскаго народа", жадаючы ад ураду навет і адпаведнае школы для гэтага „племя", г. зн. школы расейскае.

Тут была-б пэўная пасьледавальнасьць з боку п. Багдановіча і згоднасьць яго перакананьняў з яго фактычнаю дзейнасьцю дый ня было-б лішняе думкі сярод тутэйшага польскага грамадзянства, якое часта здольна разглядаць беларускую інтэлігэнцыю, як нейкі Тульскі элемэнт.

Хай тады самы цёмны наш сялянін зразумеў-бы, за каго ён у 1922 г. галасаваў, кідаючы ў выбарчую урну № 16, сьпісак якога прадстаўляў сабою цікавы, як бачым, нацыянальны вінігрэт.

## Палітычны агляд.

Пасьля Гішпаніі Францыя таксама перажывае ваенны час: штодня ў газэтах друкуюцца афіцыяльныя апавешчаньні гэнэральнага штабу аб палажэньні на фронце, высылаецца на фронт новы ваенны матар'ял. Прэм'ер Пэнлевэ, міністар загранічных справаў Брыян і міністар фінансаў Кайо робяць доўгія нарады аб гэтай справе. Праўда, пажар вайны загарэўся за межамі Францыі і Эўропы, ў паўночна-заходняй Афрыцы, ў Мароко. Дзеля гэтага, пакуль што, няма падставаў баяцца, што ён перакінецца й на Эўропу. Але ёсьць магчымасьць, што захопіць і далейшую тэрыторыю Афрыкі, а пасьля і Азіі, населенай магамэтанскімі народамі, воража настроенымі да эўропэйцаў.

Гарыста-пустынная мясцовасьць Мароко населена арабскімі плямёнамі, сярод якіх ведамы плямёны Рыфаў, Кабілаў і інш. У часе захвату эўропэйцамі калёніяў дайшла чарга й да Мароко. Дзеля важнага стратэгічнага значэньня Мароко, як блізкага да Гібральтарскага праліву, амаль што не дайшло да вайны ўжо ў 1910 г. між Францыяй і Нямеччынай. А пасьля на падставе мадрыдзкай конвэнцыі, падпісанай у 1912 г. Англіяй, Францыяй, Гішпаніяй і Італіяй, Мароко было падзелена на дзьве часткі—паўночную, аддануую пад протэкторат Гішпаніі і паўдзённую з горадам Фэцам, рэзыдэнцыяй султана, аддануую пад уладу Францыі. Горад Фэц злучаны чугункай з пабярэжжам Атлянтычнага акіяну і францускімі землямі ў Альжыры, ў якім таксама жывуць арабскія плямёны. На замену за протэкторат Гішпаніі і Францыі над Мароко Італія і Англія адтрымалі падобныя правы ў Трыполі і Эгіпце.

З прычыны няўмелых адносінаў гішпанцаў да туземных мараканскіх жыхароў, як ужо няраз мы пісалі, пачалося паўстаньне. Гэтае паўстаньне прыняло форму запраўднай вайны, якая цягнецца каля 3-х гадоў. Гішпанцы панатужыліся, паставілі армію больш за 100.000 чалавек, азброенную ўсімі навейшымі способамі ваеннай тэхнікі і, ня гледзячы на гэта, былі пабіты.

Трэ' было спадзявацца, што як толькі мараканцам удасца прагнаць гішпанцаў, яны зьвернуцца ў бок французаў. І французы гэтага чакалі. Яны, не абмяжоўваючыся ўтрыманьнем сільных ваенных адзелаў у сваім Мароко, пабудавалі ўздоўж паўночнай граніцы, рад умацованых пунктаў. Французы чулі, што Рыфы і Кабілы гатовяцца да вайны з імі, але не спадзяваліся, што гэта здарыцца так хутка і з гэткай сілай. І вось колькі тыдняў назад племя Рыфаў пачало наступленьне проці французаў на фронце 100 кілём. даўжынёю ў кірунку Фэца і Тазу. Удар быў гэтак моцны і раптоўны, што францускае войска на ўсёй лініі адступіла, пакінуўшы свае ўмацованыя пазыцыі. І толькі дзякуючы падмозе, прыйшоўшай з Альжыру, ўдалося стрымаць наступленьне Рыфаў. У гэты час у Парыжы быў перапалох. Хутка была выслана з розных месцаў Францыі артылерыйская падмога, аэропляны і пяхота. Галоўнаму камандзеру ў Мароко, маршалку Ліоту было даручана выкарыстаць усе способы, каб зрабіць парадак. І 13 траўня, адтрымаўшы падмогу, француская армія на ўсім фронце дала гэнэральны бой. Француская армія была падзелена на 3 групы. Флангі баявога фронту былі прыкрыты кавалерыяй і аэроплянамі. Спачатку атака францускага войска была падгатоўлена сільнымі артылерыйскімі стрэламі і паветранай бомбардыроўкай. Ня гледзячы на гэта, спачатку перавага была на баку Рыфаў. І толькі, дзякуючы прорве ў іхнім фронце, удалося іх зьбіць з іхніх пазыцыяў. Але няма ведама, ці пайдуць французы далей і ці не пайдуць Рыфы ў

**Паштавікі яшчэ толькі вучацца беларускае мовы.**

„Звезда“ за 7.V. 1925 р. паведамляе, што народным камісарыятам пошты й тэлеграфу асыгнована 2830 рублёў на расходы па вывучаньню беларускае мовы працаўнікамі пошты. Блізу ўва ўсіх паштова-тэлеграфных прадпрыемствах і установах арганізованы гурткі і школы па вывучаньню беларускае мовы.

**Зьезд беларускіх вучоных.**

Аддзелы і сэкцыі Інбелкульту (інстытуту беларускае культуры) вядуць падрыхтоўку да намечанага ў Менску сусьветнага конгрэсу беларускіх вучоных. На зьезд маюць быць запрошаны ўсе вучоныя, якія пражываюць у розных краёх і працуюць у галіне звучэньня жыцьця і быту ў Беларусі і насяляючых яе народнасьцяў. Скліканьне зьезду проектуецца на восень бягучага году.

# Жыцьцё провінцыі.

*Бельскі пав.*, **Горадзеншчына.**

Ужо паўгода як у нашым павеце пошасьць на рагатую жывёлу. Пошасьць абхоплівае ўсё новыя і новыя вёскі, так што пад яе пагрозай знаходзіцца ўся ўсходняя частка нашага павету. Хвароба зьядае ў жывелы лёгкія і яна праз якіх 2 месяцы здыхае. Звычайна да гэтага не даходзе, таму што гаспадар ці сам дарэжа хворую жывёліну ці мясьніком-жыдом сплавіць.

Вэтэрынарны нагляд змагаецца з эпідэміяй, аднак рэзультатаў гэтае барацьбы неяк ня відаць, бо зараза разыходзіцца штораз то шырэй.

Трэба ад'значыць, што і варункі барацьбы з заразаю вельмі цяжкія, бо сялянства стараецца скрыць ад уладаў страшную хваробу. З восені забіралі толькі захварэўшую скаціну, пакідаючы здаровую — цяпер-жа забіраюць дачыста і хворую і здаровую і адпраўляюць на забой. Ня дзіўна, што сяляне кідаюцца на розныя хітрыкі, каб толькі выратаваць сваю жывёлу. Так, напрыклад, у вёсцы Катлы, Пасынкаўскае вол., адна кабеціна здолела схаваць сваю 2-х гадовую цялушку на падстрэшшэ хаты і там у працягу цэлага месяца яе хавала, пакуль прыяцелі-суседзі не данясьлі аб гэтым уладам. А ў вялікай вёсцы Кленікі селянін П., каб насаліць сваім аднасяльчанам, каторыя былі заможнейшымі, зарэзаў адзіную сваю цялушку, зусім здаровую і пасьля заявіў уладам, што дарэзаў хворую скаціну. Гэтага было досіць, каб у вёску наехала камісія дзеля пагалоўнага перагляду быдла.

Праўда, пацярпеўшым выдаецца ад скарбу некаторае вынагароджэньне, але гэта мала каго ўсьцешвае — бо замест забранае жывёлы новае купіць нельга, пакуль ня будзе зроблена ў цэлай вёсцы дэзынфэкцыя і пакуль ня будзе вывезены з хлявоў увесь гной. А пакуль... пакуль што малыя дзеці застаюцца без малака. Хто жыў на вёсцы, той ведае, што знача ў сялянскай сям'і карова. Цукру вёска ня купляе, ня купляе і ўсяго таго, чым звычайна жывяцца дзеці ў горадзе. Адзіным прадуктам для дзяцей тут зьяўляецца малако. Калі яго няма, дзеці мусяць есьці тое — што і дарослыя — у рэзультаце: вялікія жываты, крывыя ногі, бледны твар.

Ня дзіўна, таму што калі ў в. Катлох забіралі пагалоўна ўсё быдла (было гэта на Вялікодным тыдні), дык бабы і дзеці літаральна раўлі—ня плакалі, а раўлі. Першыя зусім абаснованна, баючыся за лёс сваіх дзяцей, другія інстынктноўна прадчуваючы бяду.

**Пацярпеўшы.**

*Вёска* **Каравaі**, *Ашмянскага пав., Смаргонскай вол.*

Якую-б ні ўзяў цяперашнюю беларускую часопісь ці то: „Беларускую Долю“, ці „Krynicu“, ці „Грамадзкі Голас“ у кожнай чацьвёртая старонка сьвеціць карэспандэнцыямі з розных мясцовасьцяў. Гаротнае наша сялянства стараецца праз друкованае слова выказаць сваё гора. Хоць гэта мала памагае, але ўсёж пасьля таго, як „выспаведаешся“, выкажаш, што маеш на сэрцы і падзелішся гэтым з другімі, становіцца лягчэй на душы. Ужо самы факт, што сяляне знайшлі спосаб перадаваньня сваіх думак праз газэту, сьведчыць аб некаторай сьвядомасьці сярод шэрых масаў. Нажаль сьвядомасьць гэтая праяўляецца ня ўсюды. За прыклад возьмем хацяж-бы нашу вёску Каравaі. Тут у нас сьвядомасьць пашыраецца надта туга. Яшчэ дагэтуль пануе той пагляд, які так шкодзіць беларускаму руху, яшчэ дагэтуль шмат хто ня можа адрозьніць рэлігіі ад нацыянальнасьці: каталік лічыць сябе паляком, а праваслаўны гаворыць, што ён рускі. Асабліва моцна трымаецца гэтага пагляду наш п. Р. Адзіным інтэлігэнтам зьяўляецца у нас п. Жываткевіч. Аднак-жа і яго ў поўнай меры назваць інтэлігэнтам ня можна, бо як прасочым адносіны яго да паважнай працы, дык больш, як „поўінтэлігэнтам“ назваць яго ня маем права.

П. Ж — іч здаецца праслухаў тры разы беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні і адтрымаў „дыплём“ на званьне вучыцеля беларускіх пачатковых школ. Але на пасаду вучыцеля беларускае школы ён не папаў. Вучыў адзін год у польскай пачатковай школе ў в. Сазонах, тады езьдзіў на польскія вучыцельскія курсы ў Ашмяну, пасьля гэтага зноў быў год вучыцелем у тэй-жа польскай школе і нарэшце застаўся зусім бяз ніякага занятку.

Ну, але ўсё гэта яму можна выбачыць, бо ў той час ня вельмі рупіліся даваць дазвол на адчыненьне беларускіх школаў, а чалавек хацеў зарабіць кавалак хлеба.

Цяпер-жа прыйшоў час, калі ён меў права загладзіць свае ранейшыя памылкі. Згодна з пастановаю Сойму, кожны грамадзянін Польскае Рэспублікі можа жадаць сабе якой хоча школы. Дзеля гэтага бацькі, апякуны ці хто іншы мусяць ад свайго імя скласьці дэкляpацыі школьнаму інспэктару аб сваім жаданьні.

Дык вось сяляне, карыстаючыся са свайго права, пачалі складаць дэкляpацыі. Газэты падаюць вельмі паважны лік школьных абводаў, якія пасьпяшылі споўніць свой абавязак. Хоць і вельмі сумна, але мушу сказаць, што нашага абводу няма ў тым ліку, і ў гэтым, хаця й не актыўная, віна, грам-на Ж-ча!

Некаторыя скажуць, што ня бачаць тут ніякой яго віны, але пачакайце — я яшчэ ня ўсё сказаў. Прачытаўшы да канца гэты допіс пэўне не адзін з паважаных чытачоў нашых асудзіць п. Ж-іча за нядбайнасьць, выказаную ім у часе пісаньня дэкляpацыяў.

Будучы тут адноўчы у Вільні, ён набраў інструкцыяў і дэкляpацыяў ажно на некалькі школьных абводаў. І вось замест каб ужыць іх на што трэба, каб вытлумачыць несьвядомым сялянам абавязак, ён гэтыя дэкляpацыі частку параскідаў, а частку ўжыў на свае патрэбы. Тымчасам, праз яго віну сялянскія дзеці мусяць сядзець без свае, так ім патрэбнае, беларускай школы.

Дык вось п. Ж-іч! Вы можа і не падумалі, якую робіце шкоду несьвядомым братом сваім лёгкамыслным учынкам. Памятайце, што да грамадзкіх абавязкаў трэба адносіцца зусім сур'ёзна і з поўнай сьвядомасьцю, бо інакш вы не прынясецё нашым сярмяжным братом ніякае карысьці.

**В. К—скі.**

# Тутэйшая хроніка.

= **Часовая Беларуская Рада** далей пашырае сваю працу сярод найбольш актыўных сялянскіх масаў. Так, нядаўна адчынены Радай яшчэ два новыя сэкрэтарыяты: адзін у в. **Ганькавічах**, Валожынскага павету, а другі ў в. **Ушы**, Вялейскага павету.

На паседжаньні Час. Бел. Рады ад 16 траўня сябра Рэвізыйнай Камісіі п. Якімовіч зрабіў даклад аб праверанай ім грашовай рахунковасьці Прэзыдыуму за час ад разрыву з Грамадзянскім Сабраньнем, г. е. ад 7/II да 15/V г. г.; аказалася што рахунковасьць знаходзіцца ў парадку і на ўсе сумы ёсьць адпаведныя апраўдальныя дакумэнты.

Рада даклад прыняла да ведама і рахунковасьць Прэзыдыуму зацьвярдзіла.

= **Беларускі аб'ездны тэатр.** Часовая Беларуская Рада выдала грам. Ф. Аляхновічу 500 злотых на сфармаваньне драматычнае трупы і аб'езд ёю некаторых мясцовасьцяў у провінцыі.

= **Паведамленьне Камісара Ураду.** Камісар Ураду на м. Вільню даводзіць да агульнага ведама, што на аснове арт. 24 распараджэньня міністраў публічных работ і ўнутраных справаў за 26 чэрвеня 1924 г. кожная асоба, якая езьдзіць на вэлісапэдзе па публічных дарогах, павінна мець імянную карту, адтрыманую з Камісарыяту Ураду на м. Вільню. Карты гэтыя трэба мець падчас язды пры сабе і паказваць на трэбаваньне паліцэйскіх, дарожных і гмінных органаў. На абшары м. Вільні гэтае распараджэньне набірае моцы з 1-га чэрвеня сёл. году. Кантроль даручаецца паліцыі.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

У інтарэсах праўды не адмоўце зьмясьціць ніжэйпаданае:

У варшаўскай газэце „Kurjer Polski“ (№ 141 за 23. V. 1925) ў заметцы аб аудыенцыі маёй у міністра прасьветы п. Ст. Грабскага падчас яго пабыту ў Вільні 14 гэтага траўня гаворыцца, нібыто я „падкрэсьліў, што зьезд беларускага настаўніцтва, адбыты 18—19 сьнежня 1924 г., пастанавіў утварэньне беларускіх школаў з выкладоваю польскаю моваю ў разьмеры, якога хапае для патрэбаў практычнага жыцьця“.

Уся бессэнсоўнасьць падобнае формулы ясна сама сабою, дзеля таго, што аб ніякіх польскіх школах гутаркі з п. міністрам я мець ня мог. Як быўшы настаўнік, вельмі добра разумею, што такое *выкладовая мова* ў школе—ад гэтае мовы залежыць і самы той ці іншы *нацыянальны* характар школы. Пастанова зьезду настаўнікаў-беларусаў з 1924 г. аб патрэбе выкладаньня ў нацыянальных беларускіх школах і дзяржаўнае мовы (як прадмету) ў межах патрэбаў практычнага жыцьця была разам з іншымі пастановамі падана ў свой час да агульнага ведама праз Вашу паважаную газэту і для мяне гэткая пастанова нашага настаўніцтва зьяўляецца абавязальнаю. Даводзячы аб ёй да ведама п. міністра, я хацеў якраз падкрэсьліць тую розьніцу ў паглядах на беларускую школу, якая ёсьць паміж урадоваю тэндэнцыяю утраквізму (двумоўнасьці) ў школе і дамаганьнем з боку прадстаўлянага мною перад п. міністрам Беларускага Т-ва „Прасьвета“ нацыянальнае беларускае школы з выкладаньнем у ёй і мовы дзяржаўнае, як аднаго з прадметаў. Адсюль ясна, што ў корэспондэнцыі „Kur. Pol.“ словы мае былі проста перакручаны, даючы ў рэзультаце поўную бессэнсоўнасьць.

З пашанаю

**М. Косьцевіч**

Старшыня Ц. Р. Б. Т-ва „Прасьвета“.

# Юрыдычныя парады.

Жыхару вескі Панача **Сьцяпану Гаўрысу.**

*Пытаньне.* Жонка забітага на вайне ў 16 годзе брата захапіла яго зямлю і аддала яе сваёй радне. Дзяцей у яе няма. Што рабіць, каб вярнуць зямлю.

*Адказ.* Бязьдзетная жонка мае права толькі на 1/7 часьць маемасьці свайго мужа. Зямля захоплена бясправўна. Трэба зацьвярдзіцца у правох насьледзтва пасьля брата. Дзеля гэтага — дастаньце мэтрыку аб сьмерці брата ці які другі дакумэнт сьцьвярджаючы яго сьмерць; падайце гэты дакумэнт да мясцовага вашага судзьдзі, просячы яго зрабіць абвестку аб вызаве насьледнікаў і ацначасна з гэтым — аб забясьпечаньні насьледзтва (опіс яго і вызначэньне апекі). Апякуном можаце быць і вы самі. Пасьля 6-ёх месяцаў з дня паяўленьня ў газэтах трэцяй абвесткі аб вызаве насьледнікаў — падавайце ў Акружны Суд прашэньне аб зацьверджаньні у правох насьлeдзтва. У суд трэба падаць пры прашэньні пасьведчаньне судзьдзі аб тым, што абвестка вышла, а таксама дакумэнты сьцвярджаючыя, што вы—брат памёршага.

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.